Вас чакаюць на пошце і ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку»: ідзе падпіска на «Народную Волю» на чэрвень (да 27.05) і другую палову 2013 года

№ 40 (3781)

24 мая 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ДАТА**

## Незаўважаны юбілей

У маі споўнілася 20 гадоў беларускаму рублю. Юбілей не адзначалі. Бо мала ў свеце валют, якія абясцэньваліся такімі тэмпамі. Эканамісты падлічылі, што за 20 гадоў беларускі рубель абясцэніўся ажно на 237 595 925 працэнтаў!

| Год | Інфляцыя |
|---|---|
| 1992 | 208% |
| 1993 | 1997% |
| 1994 | 1960% |
| 1995 | 244% |
| 1996 | 39,3% |
| 1997 | 63,1% |
| 1998 | 182% |
| 1999 | 251% |
| 2000 | 108% |
| 2001 | 46,1% |
| 2002 | 34,8% |
| 2003 | 25,4% |
| 2004 | 14,4% |
| 2005 | 7,9% |
| 2006 | 6,6% |
| 2007 | 12,1% |
| 2008 | 13,3% |
| 2009 | 10,1% |
| 2010 | 9,9% |
| 2011 | 108,7% |
| 2012 | 6,8% |

Жах! Грамадзянам цывілізаваных краін напэўна, нават цяжка ўявіць, як мы ўсё гэта перажылі. Прычым пад запэўніванні ўлад, што сітуацыя ў эканоміцы стабільная і нават квітнеючая.

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ**

## Колькі атрымаюць футбалісты?

26 мая ў Жодзіне адбудзецца фінальны матч Кубка Беларусі па футболе, у якім адносіны будуць высвятляць мінскае “Дынама” і “Мінск”. Пакуль невядома, як будзе ўшаноўваць футбалістаў кіраўніцтва “бела-блакітных”, калі тыя выйграюць у фінале, а вось па “Мінску” сітуацыя больш-менш ясная.

Як распавёў генеральны дырэктар ФК “Мінск” Ігар Шлойда, у выпадку перамогі ў фінале “Мінска”, каманда атрымае 800 мільёнаў беларускіх рублёў (каля 92 тысяч долараў). Зрэшты, Ліга чэмпіёнаў — не Кубак Беларусі, а “Мінск” — не “Барусія”.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ШОК!**

# Загінулі лепшыя ўрачы Полацка...

*Трагедыя здарылася ўчора на аўтатрасе Полацк—Віцебск. Аўтамабіль “хуткай дапамогі” “Мерседэс-210Д” з пяцю ўрачамі рухаўся ў напрамку Віцебска — ехалі на навукова-практычную канферэнцыю...*

Па інфармацыі прэс-службы МНС, вадзіцель спыніўся на абочыне, каб нешта паправіць у маторным адсеку. Падчас рамонту ўсё і адбылося: грузавая фура “ДАФ”, якая рухалася ў тым жа напрамку, на ўсёй хуткасці ўрэзалася ў “хуткую”. Удар быў настолькі страшэнны, што работнікам МНС давялося даставаць пацярпелых з дапамогай гідраўлічнага аварыйна-выратавальнага інструмента.

Вынік дарожнага здарэння трагічны: чатыры жанчыны загінулі, кардыёлаг Галіна Суворава з траўмамі рознай ступені цяжкасці была дастаўлена ў Шумілінскую раённую бальніцу. І адразу ў рэанімацыйнае аддзяленне. У другой палове дня пацыентку перавезлі ў Віцебскую абласную бальніцу. Траўмы цяжкія, але Галіна Станіслаўна ў прытомнасці, калегі спадзяюцца, што выратуюць яе, паставяць на ногі. Вадзіцель “хуткай” у шоку, але ацалеў.

Здарылася ўсё непадалёку ад вёскі Пушчы Шумілінскага раёна, і трагічная вестка неўзабаве дакацілася да Полацка — літаральна абрынула ў шок не толькі супрацоўнікаў Цэнтральнай гарадской бальніцы, але і ўсіх гараджан. Загінулі жанчыны-ўрачы, якія займалі важныя і адказныя пасады ў сістэме аховы здароўя Полацка і Полацкага раёна: **загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення Полацкай ЦГБ Наталля Гудкова; загадчыца кардыялагічнага аддзялення Полацкай ЦГБ Ірына Казачэнка; загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення урачэбнай амбулаторыі “Громы” Валянціна Ярмак; загадчыца Вароніцкай бальніцы сястрынскага догляду Алена Асавік.**

Прозвішчы гэтых жанчын, як і іх высакародныя прафесійныя справы, былі шырока вядомы ў горадзе і раёне, у вобласці. Іх паважалі, цанілі, любілі, іх называлі лепшымі медыкамі горада, прыкладам для маладых калег... І вось такое — недарэчнае, страшнае, непапраўнае...

Магчыма, ахвяр гэтай жудаснай, недарэчнай аварыі магло быць і болей. Яшчэ адна ўрач таксама павінна была ехаць у гэтую камандзіроўку, але раптоўна памёр яе свёкар, прыйшлося ехаць на пахаванне. Хто ведае, можа, адна смерць не дазволіла другую...







Наталля Гудкова.



Валянціна Ярмак.



Ірына Казачэнка.

Тэлефаную ў Цэнтральную гарадскую бальніцу, каб выказаць спачуванне калегам загінуўшых; папрасіць іх трымацца з усяе моцы і падтрымаць родных і блізкіх, якія ў гэтыя хвіліны ў страшэнным горы. Трубку зняла сакратар галоўнага ўрача бальніцы Ірына Кавека. Выслухаўшы і прыняўшы мае словы, паведаміла, што галоўны ўрач Аляксандр Васільевіч Гудкоў зараз у Шуміліне на месцы трагедыі. Адна з загінуўшых — Наталля Дзмітрыеўна Гудкова — ягоная жонка. Туды ж хутчэй за ўсё паехаў і іх сын Андрэй — таксама ўрач, стаматолаг.

Далей гаварыць было проста немагчыма: шок і боль не адступаюць... Трымайцеся, людзі, мы з вамі.

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

**ОФИЦИАЛЬНО**



## Николай МЕЛЬЧЕНКО: «Решение принимали не милиционеры, а суд...»

*“Народная Воля” дозвонилась на “прямую линию”, которую вчера проводил замминистра внутренних дел — начальник милиции общественной безопасности МВД генерал-майор **Николай Мельченко**. И выяснила, как он относится к задержаниям журналистов.*

**— Николай Александрович, в последнее время было несколько случаев задержаний и арестов журналистов. Их привлекали к административной ответственности на основании показаний милиционеров, которые выступали свидетелями в суде. Несмотря на путаные показания и противоречия милиционеров, журналистов бросали за решетку. Не кажется ли вам, что такие истории подрывают уровень доверия к правоохранительным органам и бьют по имиджу милиции, который и без того не очень хорош...**

— Судя по вашему вопросу, я так понимаю, у вас все это вызывает недоверие к милиции...

**— После таких историй — да.**

— Во-первых, решение принимали не милиционеры, а суд. Противоречивыми были объяснения милиционеров или не противоречивыми — решение выносит суд. Во-вторых, я в суде не присутствовал, поэтому можете адресовать эти вопросы суду, который рассматривал данные административные материалы.

**— Но это не первый случай, когда задерживают людей, которые в принципе матом не ругаются, а ваши подчиненные свидетельствуют против них. И людей садят!**

— Если человек нарушает общественный порядок, его наказывают. И судья на основании показаний выносит решение.

**— Решение выносят, опираясь исключительно на слова сотрудников милиции, которые тоже далеко не идеально себя ведут. А других свидетелей в расчет не берут.**

— По закону сотрудники милиции тоже являются свидетелями. Какие еще будут вопросы?

**— То есть вы считаете, что здесь все нормально, что руководству МВД не стоит обращать внимания на подобные факты?**

— Еще раз поясняю: если судебное решение принято и подтверждена вина того или иного нарушителя, значит, решение правомерно. И обсуждать его — не наша компетенция. Что касается других вопросов, то по некоторым фактам мы проводим свое внутреннее разбирательство и принимаем решение.

**— И были случаи, когда затем наказывали сотрудников милиции?**

— Конечно были. Когда где-то превысили свои полномочия. Вы же все это видите — в интернете об этом постоянно пишется.

**— К сожалению, эта информация не всегда публична.**

— Публична она настолько, насколько это возможно...

***

***К сожалению, Николай Мельченко сделал вид, что не совсем понимает, о чем речь. И вместо того чтобы, как и подобает настоящему руководителю, взять ответственность на себя и признать какие-то ошибки и перекосы, он предпочел прикрыться “решением суда”. Эх, а еще генерал!..***

***А ведь мог хотя бы пообещать разобраться, организовать какой-нибудь “круглый стол” — позвать и журналистов, и тех спецназовцев, которые против них свидетельствовали. Чтобы посмотреть друг другу в глаза, поговорить, решить проблему взаимодействия...***

***Не удивительно, что суд, в свою очередь, укажет пальцем на милицию — мол, ну что вы, проигнорировать показания милиции нельзя! Это же милиция, она же врать не может!***

***И виноватых в том, что журналистов бросили за решетку, как бы и не будет. Вернее, скажут, что сами виноваты...***

***Ну разве это правильно?..***

***Разве по-мужски?..***

**Марина КОКТЫШ.**

**ДА ЎВАГІ**

## Паедзем па новых коштах

Заўтра даражэе праезд у сталічным грамадскім транспарце. Кошт адной паездкі складзе 2000 рублёў, талончык у кіроўцы будзе каштаваць 2500 рублёў. Праезд у экспрэс-маршрутах — 3000 рублёў.

У гэтым годзе гэта першае падаражанне праезду. Наступнае чакаецца да канца года, кошт адной паездкі складзе 2300 рублёў.

**ФОТАФАКТ**

# Расшукваюцца жанчыны...

*На гэтым тыдні МАЗ правёў прэзентацыю школьнага аўтобуса. Цяпер Мінскі аўтамабільны штомесяц выпускае каля 30 адзінак такіх аўтобусаў. Яны пастаўляюцца як спажыўцам Беларусі, так і ў Расію.*




Прадстаўляючы машыну, галоўны канструктар па аўтобусах **Юрый Сыракваш** адзначыў, што аўтобус для расійскіх спажыўцоў крыху адрозніваецца. На аўтобусе для Расіі — надпіс “Дзеці”, для Беларусі — “Школьны”. Такое патрабаванне стандартаў дзвюх краін. Ёсць невялікія адрозненні ў форме сядзенняў, памеры фортачак.

Дарэчы, фінансаваць закупку школьных аўтобусаў для беларускіх рэгіёнаў будзе Банк развіцця. Падчас сустрэчы з кіраўніком банка Сяргеем Румасам, на якой абмяркоўваўся гэты праект, Аляксандр Лукашэнка выказаў пажаданне, каб вадзіцелямі школьных аўтобусаў былі... жанчыны, паколькі яны больш акуратныя вадзіцелі. Акрамя таго, гэта дазволіць хоць некаторым з жанчын знайсці працу, што для вёскі застаецца вялікай праблемай.

Наколькі вядома, гэта пажаданне мясцовыя ўлады паспрабуюць выканаць. Плануецца, што для будучых жанчын-вадзіцеляў будуць арганізаваны спецыяльныя курсы.

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

## Злоўжывалі ўладай

*Былому старшыні Гомельскага гарвыканкама **Віктару Піліпцу**, таксама шэрагу службовых асоб УКБ Гомельскага гарвыканкама, замяшаным у кватэрным скандале, прад’яўлены канчатковыя абвінавачанні. Справа перададзена пракурору для прыняцця рашэння аб накіраванні ў суд.*

Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта, дзеянні абвінавачаных кваліфікаваны па ч.2 і ч.3 арт.424: злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі, макісмальнае пакаранне па якіх — пазбаўленне волі да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Паводле інфармацыі Следчага камітэта, у ходзе следства ўстаноўлена, што абвінавачаныя, знаходзячыся ў вышэйзгаданых пасадах, у верасні—кастрычніку 2011 года незаконна размеркавалі паміж сабой, сваімі сваякамі, блізкімі і знаёмымі кватэры ў шматкватэрных жылых дамах, частка жылых памяшканняў была аформлена на падстаўных асоб. Кошт набытых абвінавачанымі кватэр быў значна ніжэйшы, чым рынкавы.

Арыштавалі Піліпца ў верасні мінулага года.

*“У выніку злачынных дзеянняў вышэйзгаданых службовых асоб бюджэт недаатрымаў звыш 3,8 млрд рублёў, у ходзе следства кватэры вернуты дзяржаве”,* — заявілі ў Следчым камітэце.

**РУБАМ**

# Зямляк?..

*Курманбек Бакіеў — грамадзянін Беларусі і не можа быць выдадзены іншай краіне. Пра гэта заявіў Генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк, каментуючы паведамленні аб тым, што Беларусь вядзе перамовы аб выдачы былога кыргызскага кіраўніка, які ў сябе на радзіме прыгавораны да вялікага тэрміну зняволення.*

Такім чынам, чуткі пра перамовы спадар Канюк назваў дэзінфармацыяй, а вось чуткі пра тое, што Бакіеў ужо мае беларускі пашпарт, — пацвердзіў. У сувязі з гэтым узніклі новыя пытанні: па якім законе Курманбек Бакіеў мог атрымаць беларускае грамадзянства і ці ведае беларускія законы Генеральны пракурор?

Справа ў тым, што Закон “Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь” дакладна вызначае, як можна атрымаць наш сіні пашпарт.

Згодна з законам, маючы від на жыхарства або атрымаўшы статус бежанца, у Беларусі трэба пражыць сем гадоў і толькі пасля гэтага можна прэтэндаваць на грамадзянства нашай краіны. Вядомыя падзеі ў Кыргызстане, пасля якіх былы прэзідэнт з сям’ёй вымушаны былі ўцякаць ад “шчаслівага народа”, адбыліся ў 2010 годзе. Такім чынам, сем гадоў ну ніяк не атрымліваецца.

Праўда, тым жа законам “Аб грамадзянстве...” вызначана, што сямігадовы тэрмін пражывання можа быць скарочаны альбо не прымяняцца ўвогуле. І ясна пазначана — каму.

— Беларусам, а таксама асобам, якія ідэнтыфікуюць сябе як беларусы, і іх нашчадкам (сваякі па прамой лініі: дзеці, ўнукі, праўнукі), якія нарадзіліся за межамі сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

— Асобам, якія маюць выбітныя заслугі перад Рэспублікай Беларусь, высокія дасягненні ў галіне навукі, тэхнікі, культуры і спорту або валодаюць прафесіяй або кваліфікацыяй, якая мае дзяржаўную цікавасць для Рэспублікі Беларусь.

— Асобам, якія з’яўляюцца замежнымі грамадзянамі або асобамі без грамадзянства, якія раней знаходзіліся ў грамадзянстве Рэспублікі Беларусь.

Нейкіх асабістых заслуг перад нашай краін Бакіеў не мае, паколькі не мае беларускіх узнагарод. Пасада прэзідэнта ў нас не вакантная, таму іншаземцы з гэтай кваліфікацыяй Беларусі не патрабуюцца. Бакіеў не спартсмен і не вялікі навуковец. Дык, можа, ён этнічны беларус, што яму было дадзена беларускае грамадзянства?..

Хацелася б, каб Генеральны пракурор Аляксандр Канюк адказаў на пытанне: па якім законе Бакіеў атрымаў беларускі пашпарт? І ці не задача Генеральнага пракурора дабіцца выканання закона?

**Алена НОВІКАВА.**

## Пантыфіка чакаюць у Беларусі

*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі **Тадэвуш Кандрусевіч** прымае ўдзел у пленарным пасяджэнні епіскапату Італіі. 22 мая ён прысутнічаў на агульнай аўдыенцыі **Папы Францішка**. Беларускі іерарх пабываў на агульнай аўдыенцыі новага Пантыфіка ўпершыню. Пасля сустрэчы Тадэвуш Кандрусевіч падзяліўся сваімі ўражаннямі: “Было вельмі шмат людзей, была запоўнена не толькі плошча Святога Пятра, але і палова суседняй вуліцы”. Арцыпастыр адзначыў “незвычайную прастату Папы, калі ён пасля аб’езду вернікаў на плошчы ўзышоў на прыступкі базілікі Святога Пятра, падышоў да святароў і свецкіх асоб, якія абслугоўваюць аўдыенцыю, і прывітаўся з імі, сам узяў мікрафон, дастаў з кішэні акуляры”.*

Пасля завяршэння аўдыенцыі біскупы мелі магчымасць падысці да Папы. Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч прадставіўся Пантыфіку і сказаў, што служыць у Мінску. “*Але ж мы ведаем адзін аднаго!*” — адказаў на гэта Святы Айцец. Беларускі іерарх сказаў, што гэта сапраўды так, бо падчас яго працы ў Расіі адзін са святароў паходзіў з Буэнас-Айрэса, і Мітрапаліт сапраўды сустракаўся з кардыналам **Берголіа**.

“*Таксама я сказаў Папу, што беларускія католікі моляцца за яго і чакаюць, каб нага Наступніка Святога Пятра ступіла на беларускую зямлю. Папа з разуменнем прыняў гэтыя словы і сказаў: „Маліся за мяне”.*

Напрыканцы Арцыбіскуп Кандрусевіч перадаў Папу найлепшыя пажаданні ад беларускіх католікаў і падзякаваў за прызначэнне кардынала **Жана-Луі Тарана** легатам на сёлетнія юбілейныя ўрачыстасці ў Будславе.

**Дар’я СОЛТАН.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Чаму ў беларускага грамадства такая кароткая памяць?

*Гэтае пытанне міжволі ўзнікла пасля выступлення журналісткі Ірыны Халіп на вечарыне памяці зніклага тэлеаператара **Дзмітрыя Завадскага**, якая днямі адбылася ў Мінску.*

— *З моманту знікнення Дзімы прайшло 13 гадоў — гэта вялікі кавалак часу,* — сказала на сустрэчы ўдава журналіста **Святлана Завадская**. — *За гэтыя гады было напісана шмат розных скаргаў і хадайніцтваў у праваахоўныя органы, праведзена нямала сустрэч з беларускімі і замежнымі палітыкамі і журналістамі... Канешне, нам хацелася б нейкага канкрэтнага выніку, але, на жаль, яго няма. Хачу сказаць дзякуй усім тым, хто гэтыя гады быў побач з намі, не забываў, выходзіў на акцыі і трымаў партрэты Дзмітрыя і астатніх зніклых.*

Святлана Завадская адзначыла, што справа аб гвалтоўным выкраданні яе мужа не вядзецца ўжо з 2006 года. Увесь гэты час праваахоўныя органы не могуць даць канкрэтнай інфармацыі пра тое, дзе шукаць цела Дзмітрыя, а на ўсе пытанні адказваюць фармальнымі адпіскамі. Юрысты ўвогуле не выключаюць, што праз два гады крымінальная справа аб гвалтоўным знікненні Дзмітрыя Завадскага можа быць адпраўлена ў архіў.

Маці Дзмітрыя Вольга Завадская лічыць, што нельга дапусціць, каб грамадства забылася аб знікненні **Дзмітрыя Завадскага, Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі** і **Анатоля Красоўскага.**

— *Нашай сям'і вельмі цяжка думаць, што справа Дзімы ляжыць на архіўнай паліцы,* — гаворыць Вольга Рыгораўна. — *Страшна. Усе нашы намаганні на сённяшні дзень зводзяцца да аднаго — не адпускаць гэтую тэму. Размаўляць, напамінаць праз СМІ, праз дзейнасць праваабаронцаў, палітычных партый.*



Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька** зазначыў, што кропку ў справе зніклых асоб можна будзе паставіць толькі тады, калі ўсе ўдзельнікі злачынства будуць асуджаны. Лябедзька ўпэўнены, што рана ці позна ў гэтай справе будзе пастаўлена кропка, і правёў паралелі з падобнай справай украінскага журналіста **Георгія Гангадзе**, забойцы якога апынуліся на лаве падсудных. Па словах Анатоля Лябедзькі, тэма гвалтоўнага выкрадання знакамітых асоб зараз, на жаль, малаактуальная сярод еўрапейскіх чыноўнікаў. Але нават не ў іх справа — гэтай тэмай павінны займацца ў першую чаргу самі беларусы.

Журналістка расійскай "Новой газеты" **Ірына Халіп** галоўнай праблемай у тэме знікнення вядомых людзей лічыць *"кароткую памяць"* беларускага грамадства і міжнароднай супольнасці. І зазначыла, што, нягледзячы на далейшы лёс справы Завадскага, яго родныя, блізкія, калегі будуць дамагацца праўды.

— *Дзмітрый і Святлана Завадскія былі парай, ад якой было цяжка адвесці вочы,* — сказала Ірына Халіп. — *Такое рэдка бывае, калі шчаслівая сямейная пара адначасова такая прыгожая. Такі глянцавы, галівудскі варыянт...*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

АФІЦЫЙНА

## *Не ўсе пацыенты падшафэ будуць плаціць за лячэнне?*

У чэрвені ў Палату прадстаўнікоў паступіць законапраект аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб ахове здароўя". Як вядома, адна з норм, якую плануецца ўнесці ў закон — плата за лячэнне для пацыентаў, якія трапляюць да ўрача ў стане алкагольнага ап'янення.

Намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры, сямейнай і маладзёжнай палітыцы **Святлана Шылава** заявіла, што так жорстка пытанне пакуль не ставілася.

*"Тут вельмі шмат нюансаў, і гэта патрабуе ўсебаковага абмеркавання,* — адзначыла дэпутат. — *Напрыклад, калі чалавек хворы на алкагалізм, яго ўсё роўна неабходна лячыць. А вось для прафілактыкі алкагалізму сярод асоб, якія злоўжываюць алкаголем, бытавых п'яніц і іншых падобных катэгорый неабходна рабіць больш жорсткімі заканадаўчыя меры. Але ў сітуацыі, калі чалавек выпіў келіх шампанскага і ў яго здарыўся гіпертанічны крыз, пра гэта не можа быць і гаворкі".*

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



*Елена МОЛОЧКО*

# Долго ли ребенка надо держать в раю?

В нашей большой и уже давно взрослой семье есть только один малыш — мой племянник Федор восьми лет отроду. Индиго не индиго, но терра инкогнито точно. Как молодой щенок носится по двору, как и все мальчишки в его возрасте, прячется от бабушки, когда она зовет его домой делать уроки. А потом важно заявляется в квартиру сам и спокойно говорит, изъясняясь слогом высокой договаривающейся стороны: "Предлагаю не выносить сор из избы". Что в переводе означает — не рассказывай родителям.

Как-то пришел домой из школы без рюкзака. Хватились через день, потому что — праздники, и родители, как только сами появились вечером на пороге дома, без долгих слов собрались и — за город. Когда пришло время думать о буднях, спрашивают у сына: "Где твое имущество?" Полная амнезия. "Наверное, самовольно ходил в парк?.." (Что, естественно, пока для второклассника под строжайшим запретом). Молчание. "Ты понимаешь, что потерял учебники, в конце концов, "паспорт" ученика — дневник?!" Равнодушие. Тогда родители вздохнули: "Что ж, все расходы на новую амуницию возьмем из твоей копилки. Разбивай!". И тут полились такие слезы, наступило такое раскаяние... Как у настоящего банкира.

И вот взрослые, понимая, что из-за своей тотальной занятости могут упустить своего младшенького, последыша, который из бабушки веревки вьет, а в продленке ни за что не хочет оставаться, задумались: а не определить ли сына в частную школу? Поджаться в расходах, урезать бюджет на свой отдых, на одежду, зато за ребенком будет досмотр и воспитание с девяти утра до семи часов вечера.

Да, в этом смысле частное среднее учебное заведение — большое благо. Практически каждый учащийся на виду. После уроков — кружки по интересам. Очень хорошее двух- или трехразовое питание. Бытовые условия исключительные. В общем, оазис. Но долго ли человека надо держать в раю? Задумайтесь, ведь рай может плавно превратиться в свою противоположность. Парадокс? Только на первый взгляд.

В частных школах с детьми (особенно с детьми в начальной школе), возятся, как в оранжерее. Их не выпускают из поля зрения не только на уроках, но и после, направляя буквально каждый шаг, предупреждая конфликты, стрессы. Да, родителям спокойно, родителям зато благодать. Заплатили и живут спокойно. Однажды я даже услышала такое выражение — ребенка "забронировали". Оговорка, конечно, но — по Фрейду, из подсознания. Конечно, хотелось бы некой идеальной обстановки для своего дитяти. Но в том-то и дело, что бронь, капсула все равно до поры, до времени. Впереди у человека все равно океан социума, долгое плавание в одиночку.

Мне кажется, стоит очень хорошо подумать, как долго можно держать ребенка в частных руках — тепличных условиях. Потому что есть еще такие важные задачи, как воспитание волевых качеств и самостоятельности. Чем аукнется в будущем тотальная опека, не разовьется ли от нее, в конце концов, у человека зависимость? Каким сформируется характер человека, если он в детстве испытывал постоянное влияние в основном только благоприятных внешних условий — тепла и света? Будет ли приобретена устойчивость к конфликтам, к агрессивному социуму (а большинство агрессивно по определению)?

Вот мы чаще всего переживаем, что в больших классах государственных школ мало внимания к личности ребенка. А в маленьких классах частных учебных заведений зато нет духа соревновательности, практически нет конкуренции! Тоже проблема, и еще какая. Это особенно опасно для отличников, для способных ребят. Если в классе всего 5—6 человек и ты среди них самый лучший, а остальные, образно говоря, латентные обалдуи, которым просто натягивают оценки, то качество знаний, на самом деле, страдает у тебя! Потому что постепенно — незаметно — снижается твоя мотивация. А с кем бороться за высокие оценки, если ты и так лучший? С кем соревноваться? Нужен коллектив, команда, фон, именно они плодородная почва для всех способностей человека. И хотя мы часто, испытывая давление коллектива, переживаем, боремся с "общим мнением", которое ставит нам границы, жалуемся на нормы и запреты, на самом деле, благодаря именно этим ограничениям, преодолевая их, созидаем сами себя, ощущаем, так сказать, свою самость.

А в приватных школах, по мнению многих трезвомыслящих родителей, прошедших со своими чадами через частное образование, не хватает именно полноценной среды, разнообразия социума. Семейная обстановка — это хорошо лишь на каком-то этапе. А потом человеку для взросления нужны препятствия. Ну и большие цели, естественно.

В общем, взвесив все "за" и "против", мы отпустили нашего "дядю" Федора, повесив ему на шею мобильный телефон, в более-менее свободное плавание. Так сказать, в поход за самим собой, но в государственное учреждение в большой коллектив. В конце концов, школьный рюкзак восстанавливается. Больших бы не было потерь.

ПРАБЛЕМА!

# Жыхары гарадоў могуць зусім пазбавіцца вясковага мяса

Чаму на рынках стала менш прадаўцоў мяса, а большая частка той прадукцыі, якую нам сёння прапаноўваюць, выглядае не надта апетытна? Гандляры ўгаворваюць пакупнікоў, нават гатовы на зніжкі, але ахвотных набыць "падазронае" мяса няшмат.

Што здарылася?

Журналіст "Народнай Волі" вырашыў разабрацца ў праблеме.




Мой суразмоўца Міхась — прыватнік са Шчучынскага раёна. У яго моцная гаспадарка — карова, конь, два кабаны, гусі, індыкі, куры. Усё гэта для сваёй сям'і, а на продаж Міхась вырошчвае бараноў. Працуе, што называецца, ад відна да відна. Цяпер вось вырашыў спыніць свой няхітры бізнес.

— ***Праблема ў фінансах, у тым, што шмат трэба плаціць за паслугі бойні? Пастановай Мінсельгасхарчу зараз забаронена забіваць жывёлу на падворку...***

— *Па-першае, ў нас на ўвесь раён адна бойня. І вы б яе толькі бачылі! Па-другое, я павінен сам шукаць транспарт, каб везці туды жывых бараноў. А што да коштаў ды тэхналогіі, то самае цікавае, што ў нас чамусьці дагэтуль не распрацавана ніякай дакументацыі наконт бараніны і каніны. А тут ёсць свая спецыфіка. Калі, напрыклад, барана забіваюць, то трэба адразу ж яго падвесіць і выпусціць кроў (прабачце за такія падрабязнасці. —* ***Аўт****.). Інакш мяса ўжо будзе цяжка назваць дыетычным прадуктам, а мусульмане дык і ўвогуле яго не купяць. Але хто на бойні будзе гэтым займацца? Да таго ж з бойні бараніну трэба забіраць толькі ў лядоўні. Так проста не аддадуць. Дык які сэнс мне вазіцца з баранамі, каб усе грошы на гэтую валтузню патраціць? Вось я падстрыг бараноў і што цяпер? У лес іх выпусціць, каб ваўкі лепш з'елі?*

На Камароўскім рынку ў прыватнай размове гандлярка свінінай Ірына Мікалаеўна спытала: "*А вы ўяўляеце сабе, колькі на рынку сёння "левага" мяса? Б'юць на бойні адну тушу, а потым прадаюць пяць з адной і той жа даведкай. Калі нехта папросіць, то, канешне, пакажуць. Але ці праўда гэта? Ды і што рабіць? Вы ведаеце, што на бойні працуюць адзін-два чалавекі? Мой муж прывёз свінню раніцай, а забілі яе толькі ў шэсць вечара. Цэлы дзень яна праравула на спякоце. Навошта гэта робіцца? Лічыцца, што дома ў нас антысанітарыя. Дома прыватнік і памые тушу, і пасмаліць яе, як трэба. А там? Вось зараз я суседцы патэлефанавала з Кобрына. Чакаюць там, на бойні, параварачную машыну, каб скуру абшпарыць. Гэта ўжо азначае, што сала будзе нясмачнае. А калі прыватнік з саломкай пасмаліць?.. Розніцу адчуваеце?"*

Іду далей па мясных радах. Узгадаўшы размову пра бараніну, знаходжу яшчэ аднаго гандляра менавіта гэтай прадукцыяй. Высветлілася, што Сяргей Уладзіміравіч прадпрымальнік са стажам. Сказаў, што яго цяпер не кожны дзень можна застаць на рынку. Тлумачыць гэта дэфіцытам мяса.

— ***Сапраўды такія вялікія праблемы стварылі з гэтым "цэнтралізаваным забоем"?***

— *Вось вам свежы прыклад: пад Віцебскам адна бабуля выгадавала 5 бараноў. Ёй сказалі, каб везла іх у Сенна на бойню, склала там з імі дамову, праз дзень прыязджала, каб забраць тушы. Як вы лічыце, звычайны чалавек будзе гэтым займацца?*

— ***У сувязі з цяперашняй сітуацыяй неафіцыйна гавораць пра тое, што з'явілася шмат так званага "левага" мяса. Чым рызыкуюць пакупнікі?***

— *Галоўная небяспека — гэта падчапіць заразу. Напрыклад, свініна небяспечна трыхінелёзам, ялавічына — беламышачнай хваробай, бараніну трэба абавязкова правяраць на радыяцыю. Цяпер можна бачыць аб'явы аб тым, што недзе прадаецца мяса і нават з дастаўкай. Але я не раіў бы такім чынам яго набываць. Гэта можа быць небяспечна. Хаця і на рынку гарантыі няма. Абанемент для гандлю на рынку каштуе ад 500 да 600 долараў штомесяц. Што рабіць гандляру, які ўжо набыў яго? Браць "левак". А куды ж яму падзецца? З гэтымі бойнямі цяпер, канешне, праблема. Што да бараноў, то мусульмане ніколі не купяць мяса, калі барана забілі токам. Ды што мусульмане... Вось з бойні з Бярэзіна прывезлі 15 бараноў. І што вы думаеце? Усіх ветэрынарныя ўрачы забракавалі, адправілі назад. На бойні забілі іх няякасна, усё мяса было бруднае, у лайне. Адным словам, сітуацыя такая, што на пустым месцы расходы ўжо павялічыліся на 20—30 працэнтаў, але ясна, што вось-вось хатняе мяса з гаспадарак папросту знікне з паліц. Сяляне будуць гадаваць жывёлу не на продаж, а толькі для сябе. Гэта ўсё абернецца толькі праблемамі.*

— ***Якое можа быць выйсце, калі не вяртацца да старой схемы?***

— *Трэба, каб у раёне было 3—4 бойні і каб яны адпавядалі нармальным стандартам. Трэба дазволіць ветэрынарам з бойні правяраць мяса з прыватных падворкаў. Напрыклад, калі прыватнік забіў сам, то дазволіць яму прывезці на бойню, каб там праверылі. Калі гэтага не зрабіць, калі зараз не вырашыць праблему, то потым будзе вельмі цяжка вярнуцца нават да цяперашняга ўзроўню продажаў. Мне гэта, увогуле, нагадвае нейкія 90-я, калі было бязмежжа. Толькі тады былі крымінальныя схемы. І горш за ўсё тое, што з бандытамі дамовіцца можна, а з чыноўнікамі — ніколі.*

Тым не менш прадаўцы мяса не ўтойваюць, што высокія чыноўнікі з'яўляюцца іхнымі пастаяннымі пакупнікамі, і ўжо добра ведаюць, да якіх праблем прывяла простая пастанова аднаго з уладных ведамстваў. У сераду ў Савеце міністраў прайшла нарада па пытаннях арганізацыі забою сельскагаспадарчых жывёл, выгадаваных у асабістых падсобных і фермерскіх гаспадарках. Прадстаўнікі Белкаапсаюза і Мінсельгасхарчу пацвердзілі магчымасць арганізацыі забою жывёл у 147 цэхах забою. Аднак старшыня ўрада Міхаіл Мясніковіч даручыў Белкаапсаюзу актывізаваць працу па стварэнні пунктаў і цэхаў забою жывёлы. Таксама пастаўлена задача стварыць забойныя цэхі ў кожным аграгарадку рэспублікі. Толькі калі гэта будзе? Ці застанецца яшчэ ў фермераў жаданне займацца тым мясам?..

Логіка падказвае, што спачатку трэба было стварыць тыя цэхі забою, а ўжо потым уводзіць новыя правілы. Можа, гэта нейкая новая забава ў чыноўнікаў з'явілася: прыняць непадрыхтаванае рашэнне і глядзець, як людзі будуць выкручвацца?

**Любоў ЛУНЁВА.**

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

## *Адпачынак у вёсцы ўсім па душы*

*У мінулым годзе на 54% было больш турыстаў у беларускіх аграсядзібах, чым у 2011-м.*

— Усяго ў 2012 годзе такімі паслугамі скарысталіся каля 223 тыс. чалавек, у тым ліку больш за 38 тыс. замежнікаў, або амаль 18% усіх турыстаў, — заявіла падчас анлайн-канферэнцыі намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах Святлана Шаўчэнка. — Асаблівым попытам гэты від адпачынку карыстаецца ў грамадзян Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы.

РЕЦЕПТ

# Чем лечатся белорусы?

*Выручки белорусских аптек в прошлом году возросли по сравнению с кризисным 2011 годом почти на 15%. Но изменились ли предпочтения белорусов, стали ли мы больше покупать импортных лекарств?*

Как свидетельствует исследование компании "Интелликс-М", фармрынок Беларуси заработал в прошлом году свыше 810 млн долларов. Это значительно выше показателя 2011 года, когда лекарственных средств на территории Беларуси было реализовано на 650,4 млн долларов, и даже докризисного 2010 года (676,4 млн долларов). Что настораживает: заработал фармрынок почти на четверть больше, но непосредственно самих лекарственных средств в прошлом году белорусы купили не намного больше, чем в 2011-м — всего лишь на 2,8%. Это говорит о том, что прибыли у компаний росли только за счет того, что повышались цены на лекарства. К слову, все негосударственные аптечные сети Беларуси в прошлом году увеличили число розничных торговых точек. Значит, работать было выгодно.

Но все равно, считают эксперты, белорусы тратят очень мало средств на лекарства. В прошлом году в среднем один белорус приобрел лекарственных средств на сумму 85,8 доллара, в 2011-м — на 68,8 доллара, в 2010 году — на 71,3. Но увеличение затрат на медикаменты растет лишь в абсолютных цифрах. В потребительской корзине белоруса расходы на таблетки на протяжении последних пяти лет составляют всего лишь около 0,02%. "Если качественные лекарства недоступны, если финансы не позволяют продолжать назначенный курс лечения, это, безусловно, сказывается на конечном результате", — констатируют специалисты.

Что касается непосредственно таблеток, микстур и капель, то по-прежнему чаще белорусы покупали отечественные препараты, которые в разы дешевле импортных. Эксперты подсчитали, что 58,9% от всех проданных на нашем рынке упаковок лекарственных средств были белорусского производства. Практически таким же был этот показатель и в 2011 году — 58,7%. Самые популярные у белорусов лекарства — те, которые производятся минским заводом "Белмедпрепараты" и Борисовским заводом медицинских препаратов. Но что касается заработков белорусских фармацевтических компаний, то, по сравнению с доходами именитых мировых концернов, они более чем скромные. Только четверть (24,8%) от заработанных на белорусском рынке денежных средств пришлись на белорусских производителей. Это около 160 млн долларов. Зарубежные фармацевтические концерны заработали в Беларуси в прошлом году около 650 млн долларов. Не скажется ли такая диспропорция на ценах на белорусские таблетки? Как известно, правительство требует от наших фармацевтических компаний уже в 2015 году зарабатывать на отечественном рынке не меньше зарубежных, уровень продаж между ними должен делиться поровну — 50 на 50. Но таких показателей можно добиться, либо повышая цены на свою продукцию, либо расширяя ассортимент. Правда, чиновники от фармации постоянно успокаивают и заявляют: белорусские лекарства "дешевые, так как социально ориентированные". Цены на них "немножко повышаются" только в связи с тем, что растут цены на импортные компоненты, которые используются при производстве лекарств. Но все равно, заметил недавно заместитель министра здравоохранения, директор департамента фармацевтической промышленности Геннадий Годовальников, о резком повышении стоимости белорусских лекарственных средств речь не идет.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЧУЛІ?

## *Беларусь не хоча ведаць цану якасці сваёй адукацыі?*

*Беларусь адмаўляецца ўдзельнічаць у міжнародным рэйтынгу PISA, які дазваляе ацаніць узровень пісьменнасці школьнікаў і іх уменне прымяняць веды на практыцы.*

Вядомы сталічны рэпетытар па фізіцы і матэматыцы Яўген Лівянт сцвярджае, што адмова Міністэрства адукацыі ўдзельнічаць у падобным тэсціраванні звязана не з фінансамі (магчымасць удзельнічаць у рэйтынгу каштуе 40 тысяч еўра ў год), а са страхам "даведацца пра рэальны ўзровень нашай адукацыі ў параўнанні з іншымі краінамі".

Што такое тэст PISA? Гэта своеасаблівы маніторынг адукацыі, які праводзіцца па трох асноўных напрамках: пісьменнасць чытання, матэматычная пісьменнасць, прыродазнаўчая навуковая пісьменнасць. Удзельнічаюць у тэсціраванні падлеткі ва ўзросце 15 гадоў. Даследаванне PISA дазваляе выявіць і параўнаць змены, якія адбываюцца ў сістэмах адукацыі ў розных краінах і ацаніць эфектыўнасць стратэгічных рашэнняў у галіне адукацыі. Асноўнай мэтай даследавання PISA з'яўляецца ацэнка не столькі вучэбных планаў і валоданне зместам адукацыі, колькі адзнака агульнавучэбных уменняў і інтэлектуальных здольнасцей навучэнцаў у сітуацыях, блізкіх да тых, што магчымыя ў паўсядзённым жыцці. Лічыцца, што падвышэнне рэйтынгу ў рамках праграмы PISA на 50 пунктаў спрыяе павелічэнню гадавых тэмпаў эканамічнага росту краіны прыкладна на адзін працэнтны пункт.

Апошні рэйтынг PISA праводзіўся ў 2009 годзе. І лепшыя вынікі па ўсіх трох накірунках (пісьменнасць чытання, матэматычная пісьменнасць, прыродазнаўчанавуковая пісьменнасць) паказалі школьнікі Кітая, Сінгапура, Фінляндыі, Паўднёвай Карэі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ФАКТ

## *Менш за 2 мільёны*

Сёння ў беларускай сталіцы пражывае 1 млн 906 тыс. чалавек. У 2012 годзе ў Мінску нарадзіліся 22.637 дзяцей. Гэта на 1415 больш, чым у 2011-м. Як паведаміла на прэс-канферэнцыі намеснік старшыні камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама **Ірына Дудка,** таксама ў мінулым годзе ў мінскіх сем'ях на свет з'явіліся 292 двайнят і 13 трайнят.

